Меркаванні нашых чытачоў
2 стар.

Страляюць дзічыну за грошы
3 стар.

Бульбачкі хочацца?
14 стар.

Падумай, разгадай
16 стар.


ТЫДНЁВІК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, УШАЧЫ, ШАРКОЎШЧЫНА

16 старонак
TV праграма
Рэклама

# Вольнае Глыбокае

http://vglybokaye.promedia.by

Выдаецца са снежня 1994 года | № 7(150) 13 - 19 лютага 2003 года | Кошт 300 руб.


Шоў працягваецца

## «Апошнія гераіні»
### Глыбокага працягваюць свае геройствы

На гэты раз іх чакалі выпрабаванні холадам. Падрабязнасці на ст. 6.

ЭКСКЛЮЗІЎНЫ МАТЭРЫЯЛ «ВОЛЬНАГА ГЛЫБОКАГА»!

### Эксклюзіў "Вольнага Глыбокага"

Імя Мікалая Мікалаевіча Маціеўскага добра вядомае ў горадзе і раёне, нават за межамі Глыбоччыны. Вакол гэтага імя існавала нямала розных чутак і размоў. **У наступным нумары** чытайце **інтэрв'ю** з Мікалаем Мікалаевічам, яго адказы на самыя адкрытыя і прамыя пытанні газеты.

АНОНС

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

**Паведаміць сваю навіну Вы можаце па тэлефоне: 2-46-14**

Калі на сувязі нікога няма, пакіньце свой тэлефон на аўтаадказчык і Вамператэлефануюць нашы журналісты.

## Па вобласці:

Здзейснена 406 злачынстваў, з іх раскрыта 266, самазабойстваў – 8, адбылося 121 дарожна-транспартнае здарэнне, з гібеллю людзей – чатыры, з раненнямі – дзевяць, парушэнняў па лініі ДАІ – 4744, у тым ліку нецвярозымі вадзіцелямі – 146 , затрымана за мелкае хуліганства – 683 чалавекі, за з'яўленне ў п'яным выглядзе - 1115, трапілі ў медвыцвярэзнік – 284. Інспектарамі аховы рыбных рэсурсаў і паляўнічых відаў жывёлы затрыманы 81 парушальнік правілаў прыродаахоўнага заканадаўства. У іх канфіскавана 22 сеткі працягласцю 1300 метраў, 11 іншых забароненых прылад лоўлі і 3 кілаграмы рыбы. На 15 парушальнікаў матэрыялы перададзены ў раённыя суды, астатнія прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці. У адпаведнасці з правіламі рыбалоўства на ўсіх вадаёмах вобласці ўстаноўлена забарона на прамысловую і аматарскую лоўлю шчупака з 1 па 31 сакавіка.

## Новае ў дзейнасці мясцовых праваабаронцаў

■ **Ул. інфармацыя**

У пачатку лютага адбылася рэструктурызацыя Глыбоцкага аддзялення Беларускага Хельсінскага камітэта, вядомай ў Еўропе праваабарончай арганізацыі. Мясцовае аддзяленне пераўтворана ў Глыбоцкае прадстаўніцтва. Пасля справаздачна-выбарчага сходу змяніўся яго кіраўнік, адбыліся перамены ў складзе сяброў грамадскага аб'яднання.

**По пытаннях правоў чалавека, а таксама па псіхалагічную дапамогу можна звяртацца па тэлефоне 2-69-38 у Глыбокім.**

| НАДВОР'Е | Агляд складзены па дадзеных 10/02/2003 0:00 GMT | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| Дні тыдня | чц | пт | сб | нд | пн | ат | ср | чц |
| Тэмпература: з 14 гадзін | -2 | -9 | -9 | -2 | -2 | -2 | -3 | -3 |
| з 2 гадзін | -5 | -3 | -22 | -3 | -2 | -3 | -4 | -5 |
| Ціск, мм рт.сл. | 751 | 760 | 757 | 755 | 755 | 753 | 753 | 752 |
| Накірунак ветру | Зах | Пн-У | Пд-З | Пн-З | З | З | Пд-З | Пд |
| Хуткасць ветру, м/с | 3 | 4 | 4 | [illegible] | 4 | 3 | 3 | 3 |

© Gismeteo.Ru Заўвага: прагноз надвор'я ў нашым рэгіёне пададзены ў прывязцы да г. Полацка

МЕРКАВАННІ

# Да дня закаханых



**Каханне – гэта светлае пачуцце закранае сэрца кожнага. А як жа без яго! Кахаць чалавек пачынае ад самых малых гадоў, калі маленькім хлапчуком раптам становіцца здранцвелым перад аднагодкай і толькі цяпер бачыць, якія ў яе блакітныя вочы. Кахае чалавек да самай старасці, калі, сівая бабуля і сівы дзядуля няспешна і ўсё-такі ўсцешна закахана крочаць пад занавес свайго жыцця. Апытанне мы вырашылі прымеркаваць да свята закаханых і спытаць рэспандэнтаў, ці згодны яны з выразам: З мілым(ай) рай і ў шалашы. Прапаноўваем вашай увазе іх адказы.**
**Пыталіся Т.Смоткіна і З.Лупач**



**Дубаў Яўген Сяргеевіч:**
Я згодны. Таму што ўлюбёнасць закаханых людзей у любым узросце з'яўляецца іх натхненнем, сілай, якая рухае іх па ўсім жыцці. Таму не мае значэння, дзе яны будуць пражываць: альбо ў прыватнай кватэры, у родзічаў, у іншых месцах. Галоўнае - каб у іх было каханне, узаемапаразуменне. Нават можна пражыць і ў шалашы з сапраўдным каханнем.



**Лось Тацццяна Іванаўна:**
Згодна, а чаму не ведаю.



**Рубнікович Алег:**
Згодны, таму што я рамантык.



**Сям'я Хайноўскіх:**
Актуальнае пытанне, тым больш, што ў нас няма пакуль сваёй кватэры. Можна сказаць, што ўжо чатыры месяцы мы жывём у шалашы. Канечне, згодны.



**Аксана:**
Згодна. Калі кахаеш чалавека, з ім усюды добра: і ў шалашы, і не ў шалашы. А калі табе чалавек не падабаецца, то ўсюды будзе дрэнна.



**Лагунёнак Тацццяна Уладзіміраўна:**
Не ведаю, можа быць.



**Буката Ванда Іванаўна:**
Канечне, абавязкова. Таму што ўдваіх прысутнічае каханне. Грошы –гэта не галоўнае, галоўнае – каб згода была ў жыцці.



**Завадская Майя Іванаўна:**
Канечне, калі мілы "па душы". Галоўнае – каб не быў п'яніцам.



## Сустрэліся не "хабзайцы", а ліцэісты

**■ Святлана Міхайлоўская**

Некалі наша навучальная ўстанова называлася прафесійна-тэхнічная вучылішча. Яшчэ раней навучэнцаў нашай вучэльні клікалі "хабзайцы". Але час расставіў усё па сваіх месцах: сёння гэта прафесіянальна-тэхнічны ліцэй. І назва адпавядае зместу таго аб'ёму ведаў, які ён дае.

Так што на традыцыйную лютаўскую сустрэчу сабраліся ўжо былыя ліцэісты. Амаль як па Пушкіну. Выпускнікоў было не так і шмат, але гэта не перашкодзіла святу. Кожны з іх мог зазірнуць у класы, прысесці за парту, закрыць вочы і на імгненне зноў адчуць сябе студэнтам.

У спартыўнай зале панавала атмасфера ўрачыстасці. Для былых навучэнцаў вядучыя прапанавалі шмат конкурсаў, загадак, жартаў. Спецыяльна для выпускнікоў у выкананні С.Азарка, Ч. Быкавай, Л. Лагун, прагучалі песні. Шмат цёплых слоў было сказана ў адрас класных кіраўнікоў.

Вечар завяршыла дыскатэка.

апытанні «Вольнага Глыбокага»

**Тэма прадстаячых хутка выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў неяк "выпадае" па сваёй актуальнасці з нашага цяперашняга будзённага зімовага жыцця. І ўсё-такі людзі ведаюць, што выбары хутка адбудуцца. Вось стаўленне да іх, дасведчанасць розняцца. Гэта паказала і апытанне на вуліцах горада, праведзенае "Вольным Глыбокім".**
**А задавалі мы два пытанні: як адносіцеся да блізкіх выбараў і ці прыміце ў іх удзел? Ці ведаеце свайго кандыдата?**
**Пыталіся А.Касцень і З.Лупач**

# Глыбачане перад выбарамі



**Міхаіл, рабочы камбікормавага завода:**
- Што за кандыдат ідзе па маёй акрузе? І паняцця няма. Ды і якая розніца, за каго галасаваць. Усё роўна нічога ў нас не зменіцца, будзе так, як і было.



**Аляксей, беспрацоўны:**
- Ніколі не хаджу на выбары і нічым у сувязі з імі не цікаўлюся. Такі мой падыход.

**Ніна Віктараўна, жыхарка Падсвілля:**
- А мы свайго кандыдата добра ведаем. Гэта дырэктар нашага завода харчовых прадуктаў Акуленка. Я на выбары абавязкова пайду і буду за яго галасаваць.
(Фатаграфавацца наадрэз адмовілася).



**Крысціна Канстанцінаўна, паштальён:**
- Жыву ў раёне Мінскай, Камарова. А вось хто ў нас ідзе ў дэпутаты – шчыра скажу – не ведаю. Ды галасаваць пайду абавязкова. І на выбарчым участку можна нешта пазнаць пра чалавека. Вашу ж газету разношу па людзях. Сёлета на маім участку яе нямала. Выпісваюць і пенсіянеры.



**Анатоль, настаўнік:**
- Выбары – гэта аснова любой дэмакратыі. Ды прачытаў я статыстыку па вылучэнню кандыдатаў. Практычна на адну акругу – адзін кандыдат. Якія ж гэта выбары, таму вагаюся: ці прымаць увогуле ў іх удзел.



**Валянціна, прадавец:**
- Галасаваць абавязкова пайду. Вось толькі пра кандыдата па нашай акрузе нічога яшчэ не чула. Час яшчэ ёсць.

**Сяргей, Дзмітрый, Аляксандр (злева направа, здымак унізе):**
- Я гарадскі, а Дзмітрый і Аляксандр з Абрубскага сельсавета. Пра свайго кандыдата нічога не ведаю. Галасаваць жа ці пайду... Хто ведае.
- А мы працуем у сувязі. Ведаем, што наш начальнік Іван Сціпанавіч Шабанаў стаў кандыдатам у дэпутаты. Будзем галасаваць за яго.
- Вось толькі ці па нашай ён акрузе.



# СТУДЭНЦТВА ПОЗНАНІ

**У працяг тэмы адукацыі за мяжой, я распавяду пра студэнцтва сучаснай Польшчы. На мінулым тыдні я ездзіў у Познань, цэнтр Велькапольскі, вялікі мегаполіс і разам з тым адукацыйны цэнтр, дзе навучаюцца не толькі палякі, але і беларусы з украінцамі. Менавіта тут знаходзіцца універсітэт імя нашага земляка Адама Міцкевіча. Месціцца ён у самым цэнтры горада і ўяўляе з сябе некалькі карпусоў і інтэрнат, дзе могуць сяліцца іншагароднія і замежныя студэнты. Ля універсітэта стаіць вялікі помнік Навагрудскаму класіку, ёсць невялічкі пляц і лаўкі, дзе летам можна пасядзець, папіць кока-колу і адпачыць пасля заняткаў.**

■ Андрэй Храпавіцкі

## БЫТ

Ёсць у горадзе яшчэ адзін прэстыжны ВНУ – тэхналагічны універсітэт. Менавіта тут можна атрымаць добрую камп'ютарную і інжынерную адукацыю. Адсюль студэнты часта запрашаюцца на практыку ў кампаніі, што працуюць у галіне інфармацыйных тэхналогій.

Гаворка пойдзе якраз пра навучэнцаў гэтага ВНУ. Адзін дзень я спыніўся ў свайго старога знаёмага Мар'юша. Ён нарадзіўся на поўнач ад Познані, разам з двума сваімі сябрамі здымае двухпакаёвую кватэру. Навучаецца ён на трэцім курсе свайго універсітэта, вывучае інжынерную справу, сам праектуе мікрасхемы, замаўляе іх вытворчасць і прадае праз уласны сайт у інтэрнэце. У кватэры жыве таксама Марцін з Пётрэкам. Яны таксама з іншых гарадоў, але ўжо прызвычаіліся да жыцця ў Познані і нікуды з'язджаць не збіраюцца. У кожнага камп'ютар (у аднаго ноўтбук), якія яны злучылі лакальнай сеткай, найперш дзеля таго, каб гуляць разам. Зразумела, у кожнага мабільны тэлефон. У інтэрнэце дома не сядзяць, бо не маюць звычайнага тэлефона. Але ў кожнага ёсць доступ да глабальнай сеткі, праз інтэрнэт у Польшчы параўнальна танны. Дзесьці за 30-40 долараў у месяц можна мець такую хуткасць, што двухгадзінны фільм будзе закачаны за 30-60 хвілін.

## ВУЧОБА

Але забавы забавамі. Менавіта зараз заканчваецца сесія! Таксама як і ў нас – 5-6 іспытаў, 5 гадоў вучыцца. Таксама, як у нас, – адукацыя бясплатная, стыпендыя меншай перадузятасцю. Хаця, як кажа Мікалай (студэнт-беларус універсітэта ім. Адама Міцкевіча), вучыцца ў іх трэба па-сапраўднаму, а не чакаць халяву. Дарэчы, ніякіх легенд-традыцый пра яе ў Польшчы няма.

«Залікоўкі» розных польскіх ВНУ вельмі падобныя адна на адну і завуцца "індэкс". Спачатку ідуць залікі, потым, як і ў нас, экзамены.


Студэнты Познаньскага універсітэта на лекцыі

залежыць ад адзнак. Пётрэк і Марцін нават лічылі на калькулятары свой сярэдні бал. У пятніцу экзамен па тэлекамунікацыях. Неўздалёк жыве Кася, дачка экзаменатара, з якой хлопцы здолелі пасябраваць, таму і спадзяюцца, што гэты экзамен пройдзе гладзенька. Нядаўна хтосьці прынёс ім адксеракапіраваныя канспекты, таму ў апошнія 2 дні хлопцы налеглі на навуку. Паміж экзаменамі звычайна перапыў – 3 дні. Пасля сесіі – двухтыднёвы адпачынак.

Галоўнае адрозненне паміж нашымі сістэмамі адукацыі – польская куды больш арыентавана на індывідуальнае навучанне. Калі ты не ходзіш на лекцыі, ніхто табе і слова не скажа. Галоўнае – вучыцца, чытаць літаратуры. Іспыты праходзяць як у пісьмовай, так і ў вуснай форме, але з куды

## АДПАЧЫНАК І ГРОШЫ

Як жа бавяць вольны час познаньскія студэнты? Як вядома, напой студэнта – піва. Калі ў нас студэнты часам бяруць яго на разліў і ідуць у інтэрнат, польскія студэнты маюць свае "пабы". Гэта англійскае слова прыжылося ў сучасным польскім лексіконе і азначае нешта іншае, як бар. Найпапулярнейшая студэнцкая "піўнуха" ў цэнтральным Познані – "Academic Pub". Тут даволі таннае піва, добрая музыка і заўжды шматшмат студэнтаў. Абмяркоўваецца ўсё – ад вартасцяў таго ці іншага прафесара, да планаў на наступны ўікенд. Маладзёны з польскіх ВНУ летам часта едуць за мяжу працаваць. Ёсць у іх тыя самыя праграмы, па якіх беларусы выязджаюць на заробкі за акіян. Зарабіць, праўда, палякам куды прасцей. Найперш у грашовым плане, па-другое, амерыканская амбасада не такая перадузятая, як у дачыненні да нашых. Мар'юш гэтым летам нікуды не едзе, бо будзе праходзіць практыку ў офісе мабільнага апаратара "Plus GSM" у Познані, але ён ужо паспеў пападарожнічаць па Францыі, Італіі, Літве і Германіі.


Адзін з карпусоў універсітэта імя А.Міцкевіча.

якую закачваюць не толькі музыку, але і фільмы, якіх у іх скапілася на дысках ужо многа дзясяткаў. Зразумела, як і ўсюды, польская моладзь абменьваецца касетамі, дыскамі, фільмамі, музыкай. Для студэнтаў ліцэнзійную прадукцыю набываць дарагавата, а вось закачваць праз інтэрнэт – працэй прастога. Як мабільныя тэлефоны (мае знаёмыя плацяць каля 10 еўра ў месяц), так і

Стыпендыі на забавы хапае. З іншага боку, пражыць на яе нельга, хаця многія беларускія студэнты ў Польшчы жывуць (і, як кажуць, не дрэнна). За кватэру разам хлопцы плоцяць 350 злотых. Стыпендыя кожнага крыху перавышае гэту суму. Харчовыя прадукты, вопратка ў Польшчы вельмі танныя, таму хапае і на ежу, і на вопратку, і на піва.

Павучыцца ў Польшчы, ЗША і іншых краінах могуць і глыбачане. Як гэта зрабіць, вы зможаце прачытаць толькі ў "Вольным Глыбокім" у бліжэйшых нумарах.

**АДУКАЦЫЯ**

# У школе будзе сучасны клас

**Сярэднюю школу № 2 горада Глыбокае не назавеш па аснашчэнню самай передавой у раёне. Школа гэта, можна сказаць, у плане насычанасці тымі ж камп'ютарамі, радавая. З 1991 года тут вядзецца навучанне асновам работы на гэтай тэхніцы, без якой сённяшні свет не абыдзецца. Але ж камп'ютары былі вельмі недасканалымі, не адпавядалі сучасным патрабаванням.**

■ Ул. інфармацыя

Больш за дзесяць год запар школьнікі засвойвалі азы працы на «Карветах», тады як кожны год гэта тэхніка ўдасканальвалася і замянялася на славутыя «Пенціумы» і «Селероны». На сцёртых клавішах вучні цудоўна набіралі ўсляпую і вывучалі мовы праграмавання.

Усё-такі пры ўсёй недасканаласці тэхнічнага забеспячэння ў школе дабіваліся пэўных і неблагіх вынікаў. Як зазначыла з гордасцю нашаму карэспандэнту дырэктар школы Тамара Аляксандраўна Мурашка, навучэнец адзінаццатага класа Сяргей Доўгі на абласной алімпіядзе па фізіцы заняў пачэснае чацвёртае месца. А васьмікласнік Яўген Шаеў таксама на абласной алімпіядзе па інфарматыцы заняў такое ж, чацвёртае месца.

Заслуга тут найперш саміх навучэнцаў, якія здолелі і ў сціплых умовах дабіцца выдатных вынікаў. Заслуга і настаўнікаў школы Алега Якаўлевіча Свердлава і Іны Анатольеўны Пачопка.

Што ж, павіншуем пераможцаў і іх выхаванцаў. А разам з тым паведамім прыемную навіну:

не праз ласку фундатараў, не праз нейкія фонды, а менавіта праз Міністэрства адукацыі нядаўна школа атрымала самыя сучасныя камп'ютары, якія дазволяць арганізаваць навучанне на зусім новым узроўні. Наяўнасць такіх камп'ютараў можа стаць сур'ёзнай падставай для арганізацыі ліцэйскіх класаў у школе.

Часам наракаюць на адсутнасць неабходных умоў навучання дзяцей у правінцыі. Як бачым, не ўсё так і скрушна. А выкарыстанне сучаснай тэхнікі дапаможа ажывіць навучальны працэс, дазволіць параўнаць свае здольнасці з сучаснымі патрабаваннямі.

**звярні ўвагу**

# ШАНЕЦ ДЛЯ ЦЯБЕ!

Калі ТЫ выпускнік ШКОЛЫ і марыш стаць СТУДЭНТАМ журфака, альбо проста АКТЫЎНЫ, вынаходлівы і жадаеш выпрабаваць сябе, "Вольнае Глыбокае" дае табе ШАНЕЦ!







паспрабуй сябе ў ролі карэспандэнта нашай газеты ад сваёй школы. На старонках нашай газеты ты можаш размясціць інфармацыю пра школьнае жыццё, цікавыя падзеі з тваім удзелам, а таксама пра тое, як праводзяць вольны час твае аднагодкі. Вашыя артыкулы будуць надрукаваны на старонках "Вольнага Глыбокага", а самыя актыўныя аўтары атрымаюць магчымасць наведваць заняткі ў "Школе журналістыкі" ў Мінску альбо Віцебску.

ЗААВІ ПРА САБЕ!

**Артыкулы можна адправіць на адрас: 211800 Глыбокае, а/с №2 альбо e-mail: vglybokaye@promedia.by, указаўшы свой кантактны тэлефон**

РОЗНАЕ

# БЕН АФФЛЕК

## БЫЛ НА ПОГИБШЕМ ШАТЛЕ «КОЛАМБИЯ»



Американский актёр Бен Аффлек был особо потрясён тем, что случилось с космическим кораблём «Коламбия», поскольку недавно провёл несколько дней на его борту, когда снималась специальная документальная передача для выпуска на DVD фильма «Армагеддон». «Я не мог в это поверить, поскольку был на шаттле «Коламбия». Я заходил внутрь и находился там. Всё это похоже по впечатлениям на мини-версию 11 сентября. Ты только собираешься заняться своими ежедневными делами и вдруг видишь - происходит нечто ужасное. Это заставляет смотреть в перспективу, где мир непривычен и действительно горек».

## NASA изучает версию

### столкновения шаттла Columbia с неизвестным объектом

Специалисты NASA расследуют новую версию катастрофы космического челнока Columbia, согласно которой шаттл мог столкнуться с неизвестным объектом. Как стало известно журналистам CBS News, в NASA рассматривают возможность столкновения космического корабля через день после старта.

Как стало известно CBS из собственных источников, из анализа данных отслеживающего радара следуют, что от шаттла отделился неизвестный пока объект. По словам источника, отделившийся объект двигался со скоростью около пяти метров в секунду.

Эта версия еще не подтверждена и не изучена до конца, и диспетчеры намерены вернуться к изучению данных телеметрии шаттла и выяснить, что же произошло на самом деле. Если станет очевидно, что некий объект действительно отрывался от челнока с заявленной скоростью, можно было бы предположить, что Columbia столкнулась, например, с космическим мусором. Это объяснило бы разрушение левого крыла и топливной системы шаттла во время его возвращения на Землю.

Существует еще одна версия появления около челнока неизвестного объекта. Согласно данным телеметрии, в изучаемый момент Columbia освобождалась от воды. Это операция проводится периодически, и сбрасываемая вода немедленно превращается в лед и отделяется от корпуса корабля.

Однако источники агентства считают версию со льдом маловероятной. Поскольку, по их наблюдениям, объект уже некоторое время находился на орбите.






## Ва Украіне адна дарога – у НАТО і ЕС

**Прэзідэнт Украіны Леанід Кучма лічыць, што стратэгічны выбар Украіны па ўступленні ў Еўрасаюз і Паўночнаатлантычны альянс з'яўляецца безальтэрнатыўным. "Я перакананы ў безальтэрнатыўнасці еўрапейскага выбару з пункту погляду палітычных, эканамічных і стратэгічных інтарэсаў нашай дзяржавы", — сказаў украінскі лідэр у інтэрв'ю журналістам у Кіеве.**

Прэзідэнт адзначыў, што немагчыма разлічваць на хуткае і лёгкае ўступленне Кіева ў еўраатлантычныя структуры, "бо, у адрозненне ад іншых краінаў Усходняй Еўропы, Украіне даводзіцца ажыццяўляць гэтую працу практычна сваімі сіламі, без ніякай дапамогі".

Леанід Кучма таксама заявіў, што не падзяляе заклікі аб неабходнасці перагледзець стратэгію еўрапейскага выбару і знайсці новую мадэль развіцця.

Ён сказаў, што "нясе асабістую адказнасць за вызначэнне і рэалізацыю курса Украіны на еўрапейскую і еўраатлантычную інтэграцыю".



Кіраўнік дзяржавы заклікаў органы дзяржаўнай улады актывізаваць сваю працу па ўступленні Украіны ў Еўрапейскі саюз і НАТА.

## Спрашчаецца механізм куплі валюты

Пры набыцці замежнай валюты ў абменных пунктах ці касах можна будзе прад'явіць не толькі пашпарт, але і іншыя дакументы, якія маюць пашпартныя дадзеныя фізічнай асобы. Такое новаўвядзенне, унесенае кіраўніцтвам Нацыянальнага банка ў Правілы ажыццяўлення валютна-абменных аперацый з удзелам фізічных асобаў ад 28.06.2001 г. N 170. Пра гэта паведамілі ў кіраванні інфармацыі Нацбанка.

# Прысвечаны барацьбіту

**Кастусь Каліноўскі... Колькі светлага і ўрачыстага, узвышанага і ўзрушанага для кожнага свядомага беларуса ў гэтым імені.**

■ **Людміла Асіпенка**

Беларускі юнак, які ўсё сваё свядомае жыццё аддаў барацьбе за незалежнасць роднага народа. Шляхціц, які дваранскае гучнае імя змяніў на мужыцкае – Яська, гаспадар з-пад Вільні, ахвяраваў каханнем любай Марысі Ямант дзеля шчасця і долі Радзімы.

Сэнс жыцця – барацьба за незалежнасць Бацькаўшчыны. Праўда адна – людзьмі звацца. Сваёй "Мужыцкай праўдай" ён калоў ворагу не ў брыво, а ў самае вока. Шчымлівае замілаванне і невычэрпнае захапленне выклікаюць словы, якімі віталіся Кастусь Каліноўскі і яго паплечнікі:

- Каго любіш?
- Люблю Беларусь.
- Так узаемна.

Кастусь Каліноўскі надаў нашай мове сапраўдную моц і гарт. Беларуская мова з яго вуснай загучала ваяўніча і вольна.

У змагара былі недахопы, ідэальных людзей не бывае. Але, думаю, залішні юнацкі максімалізм і недастатковая дасведчанасць могуць быць кампенсаваныя палымянасцю сэрца, трапеткасцю душы і гарачым патрыятызмам.

Памяці К.Каліноўскага была прысвечана вечарына, што адбылася ў Мінску. Нагодай да яе стала святкаванне народзінаў слаўнага сына зямлі беларускай і прэзентацыя кнігі Генадзя Сагановіча "Кастусь Каліноўскі". Цесная, але ўтульная зала Дома літаратара, партрэты Купалы, Коласа, Цёткі карціны Уладзіміра Кручкоўскага і Міколы Купавы, стварылі непаўторную атмасферу еднасці.

Былі прачытаны вершы Уладзіміра Караткевіча і Аркадзя Куляшова пранікнёным, чыстым голасам Марыі Захарэвіч. Натхнёнасць прысутнічала ва ўсім. У выступах Язэпа Янушкевіча, Алеся Марачкіна, Алеся Петрашкевіча, зацемках Сяргея Законнікава і вершах Генадзя Тумаша. Марыя Жабінская разважала на тэму «Адчуванні Каліноўскага з пункту гледжання хрысціянскай царквы за кратамі перад смерцю».

Як мог чалавек, што ведаў – не мінуе смерці, пісаць да народа, свой ліст з-пад шыбеніцы.

У завяршэнне вечарыны Пятро Русаў выканаў некалькі лірычных песень.

Крочыла дадому па вуліцах, асветленых шматлікімі ліхтарамі, а ў скронях адбіваўся тупат каня Каліноўскага, лунаў, здаецца, у паветры кліч "За Беларусь!"




■ **Андрэй Храпавіцкі**

Незадоўга перад развалам Савецкага Саюза, калі перабудова была ў разгары, у Глыбокае патрапіў "кніжны імпарт" – кнігі славутага Толкіена. Найлепей у нас прадаваўся "Хобіт", які распавядаў пра прыгоды весялун Більба і яго сяброў. Славуты аўтар-казачнік стварыў цэлы свет, паводле якога былі створаны шматлікія камп'ютарныя гульні. Калі Беларусь колькі год таму захлынула "рыцараманія", паўзнікалі рознага кшталту рыцарскія клубы "талкіеністаў". Бліжэйшы да нас знаходзіўся ў старажытным Полацку. У Глыбокім была спроба стварыць свой клуб аматараў шчыта і мяча. Аматары сярэднявечча з нашага горада ездзілі нават на адмысловы фестываль у Навагрудак.

У мінулым годзе як для глыбоцкіх, так і для сусветных фанатаў легендарнага Толкіена, пачался сапраўднае свята – выйшла першая частка трылогіі "Уладар кольцаў". Фільм адразу ж узляцеў на першае месца ва ўсім свеце. Паводле неафіцыйных крыніц, нават узначаліў хіт-парад "чорнага" рынку Беларусі. Месяц таму свет страсануў працяг фільма, які ўжо можна ахрысціць культавым, - "Уладар кольцаў: Дзве вежы". Менавіта ў гэтай частцы па сюжэту мусіць разгарнуцца сапраўдная бітва дабра са злом. Што што, а батальныя сцэны Галівуд здымаць умее. Са сваёй задачай Джэксан (рэжысёр фільма) справіўся выдатна. "Дзве вежы" аказаліся лепшымі, чым "Братэрства кальца". Што ж адбываецца ў другой частцы? Як мы ведаем, у першай Братэрства кальца падзялілася. Фрода і Сэм працягнулі свой шлях у Мардор у аўтаномным рэжыме. Арагорн, эльф Леголас і гном Гімлі склалі другую каманду. Акрамя гэтага, яшчэ два хобіты былі захоплены бандай оркаў. Злобныя пачвары бодрай рысцой бягуць у бок вежы Сарумана, несучы двух хобітаў на загрыўках. У такой дыспазіцыі пачынаецца другая частка. Далей тры часткі раздробленага Братэрства дзейнічаюць самастойна. На іх паралельныя прыгоды накладаюцца агульнапалітычныя падзеі ў Сярэдніеземнамор'і. Парад сіл зла працягваецца. Наступнай мішэнню Саўрона і яго служкі Сарумана робіцца дзяржава Рохан. Пры двары тутэйшага караля дзейнічае пакаснага выгляду міністр, які з'яўляецца агентам Сарумана. На абарону Рохана выступае Арагорн са сваімі калегамі. Там і разгортваюцца ўсе маштабныя падзеі "Двух вежаў", ад якіх нават у падрыхтаванага гледача захоплівае дух. Менавіта там разгорнецца фантастычная бітва армій Сарумана з людзьмі – гэта відовішча проста выварочвае вантробы чалавека, які знаходзіцца ў зале кінатэатра (на экране тэлевізара, на жаль, такога эфекту не атрымаецца.

ГАСПАДАРКА

# Як хутка размножыць сорт бульбы?



■ Зміцер Лупач

**Як вядома, нават самы добры сорт з цягам часу выраджаецца, у ім назапашваюцца розныя хваробы, ураджайнасць яго падае. Прыкладам таму можа служыць вельмі папулярны сярод насельніцтва яшчэ год дзесяць таму сорт "Адрэта". Апошнія гады ўраджайнасць і якасць клубняў гэтага сорту рэзка знізілася. Навукова даказана і практыкай праверана, што пасля пятай рэпрадукцыі ўраджайнасць сорту пачынае рэзка зніжацца. Гэты працэс працягваецца 2 – 3 гады, пасля чаго яна становіцца больш-менш пастаяннай, толькі на больш нізкім узроўні.**



Схема вырошчвання насеннай бульбы такая. У навуковых лабараторыях метадам культуры тканкі праводзяць аздараўленне і мікракланальнае размнажэнне зыходнага аздароўленага матэрыялу ў аб'ёмах, забяспечваючых закладку пярвічных насенневодчых пітомнікаў. Аздароўлены пярвічны матэрыял паступае ў спецыялізаваныя насенняводчыя гаспадаркі, якія на аснове яго вырошчваюць элітны матэрыял бульбы. Эліта потым прадаецца насенняводчым гаспадаркам, якія вырошчваюць насенне І-ІІ рэпрадукцыі. Менавіта яно ідзе потым на продаж насельніцтву.

Раней, калі шмат бульбы вырошчвалі калгасы, вялікіх праблем з заменай сорту не было. Як гэта рабілася, большасці добра вядома. Цяпер у НДІ бульбаводства, а таксама ў насенняводчых гаспадарках можна набыць сорт, які вам спадабаўся. Кошт яго будзе залежаць ад рэпрадукцыі. Калектыўныя і фермерскія гаспадаркі прадаюць звычайна бульбу І-ІІ рэпрадукцыі, НДІ прадаюць больш якаснае насенне (эліта і суперэліта). Кошт апошніх значна вышэйшы. Суперэліта звычайна прадаецца паштучна. Паўстае пытанне, як найхутчэй размножыць патрэбны сорт, маючы ўсяго некалькі клубняў?

Існуе некалькі спосабаў для гэтага. Найбольш просты з іх – размнажэнне разрэзанымі клубнямі. Прыступаюць да яго ў другой палове траўня. Клубні трэба каля трох тыдняў прарошчваць на святле пры хатняй тэмпературы. Затым іх трэба разрэзаць на часткі па колькасці расткоў, і ў трэцяй дэкадзе чэрвеня пасадзіць на старанна падрыхтаваны ўчастак зямлі, дзе ўнесены ўсе патрэбныя элементы сілкавання. Саджаюць клубні па схеме 35х35, на працягу лета іх трэба два разы абкапаць, трэба зрабіць некалькі апрацовак супраць фітафторы і каларадскага жука. У канцы верасня клубні выкапваюцца і ложацца на захоўванне. З аднаго клубня можна атрымаць 14 – 15 раслін, з якіх восенню можна сабраць да 180 клубняў.

Больш прадуктыўны спосаб размнажэння – гэта размнажэнне бульбы парасткамі. Для гэтага клубні бульбы ў пачатку красавіка закладваюць на прарошчванне ў светлым памяшканні пры тэмпературы паветра 12 – 15 градусаў. Калі расткі на клубнях дасягнуць 4 – 6 сантыметраў, іх трэба асцярожна аддзяліць ад клубня каля самай асновы і тут жа пасадзіць у скрынку з добра ўгноенай глебай, заглубіўшы іх на 2/3 даўжыні. Схема пасадкі: 7х7. Расаду неабходна добра паліць і прыцяніць. Праз некаторы час ад клубня трэба аддзяліць наноў з'явіўшыеся парасткі і таксама іх укараніць. Праз тыдзень парасткі пачнуць зеляніць, яшчэ праз тры тыдні іх высаджваюць на падрыхтаваны ўчастак зямлі па схеме 30х60. Клубням даюць трэці раз пусціць парасткі, разразаюць на часткі па іх колькасці парасткоў і таксама высаджваюць на падрыхтаваны ўчастак зямлі. Пры такім спосабе прадуктыўнасць аднаго клубня ў параўнанні з папярэднім спосабам узрастае ў 2 – 3 разы.

# Біялагічныя рытмы ў раслін

■ Зміцер Лупач

Як ужо адзначалася ў мінулым нумары, знаходжанне Месяца ў тым ці іншым знаку Задыяка па рознаму ўплывае на рост і развіццё раслін. Месяц праходзіць праз усе знакі Задыяка за 27 дзён і 8 гадзін. Культуры, якія вырошчваюцца для атрымання клубняў або караняплодаў, лепш сеяць ці саджаць у дні, калі Месяц знаходзіцца ў сузор'ях Цяльца, Дзевы, Казярога. Самы вялікі ўраджай ліставых культур можна атрымаць пры пасеве ў дні, калі Месяц знаходзіцца ў сузор'ях Рыб, Рака, Скарпіёна. Кветкі пажадана сеяць у дні, калі Месяц знаходзіцца ў сузор'ях Блізнят, Шаляў, Вадалея. Культуры, высяваемыя для атрымання насення ці пладоў, пажадана высяваць у тыя дні, калі Месяц знаходзіцца ў сузор'ях Авена, Льва, Стральца.

Рост раслін залежыць і ад месяцовых цыклаў, поўная змена якіх адбываецца за 29,5 дзён.

У перыяд маладзіка расліны развіваюцца вельмі марудна, у перыяд поўні – растуць хутка нават у халоднае надвор'е. Адметная розніца ў рытме роста адбываецца ў сярэдзіне трыццатага, пятнаццатага, дзесятага і восьмага дзён цыкла. Гэтыя дадзеныя няцяжка праверыць на радысцы, якая расце хутка. Смакавыя і пажыўныя якасці радысу ў значнай меры залежаць ад даты пасеву: пасеяная ў неспрыяльныя дні радыса ўся ідзе ў лісты і ўтварае мала караняплодаў.

| Дата | 13.02 | 14.02 | 15.02 | 16.02 | 17.02 | 18.02 | 19.02 | 20.02 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Усход | 12.47 | 13.49 | 15.09 | 16.38 | 18.10 | 19.43 | 21.13 | 22.43 |
| Заход | 6.16 | 7.15 | 7.58 | 8.28 | 8.50 | 9.06 | 9.20 | 9.32 |
| Знак задыяка | Рак | | Леў | | Дзева | | Шалі | |
| Фаза Месяца | Месяц узрастае | | | | Поўня 1.52 | Месяц убывае | | |

# Яблыня Нядзведскага

**Васіль Вітальевіч Бухараў вядомы ў Глыбокім чалавек. Па прафесіі ён ваенны, яго захапленне - садоўніцтва. Пра гэта «Вольнае Глыбокае» ўжо пісала на сваіх старонках. Васіль Вітальевіч займаецца вывядзеннем новых гатункаў пладовых дрэў, іншых і часам вельмі рэдкіх раслін. Пра некаторыя з іх Бухараў і раскажа ў нашай газеце.**

■ Васіль Бухараў

Большасць людзей успрымаюць яблыню выключна як пладовую культуру. А між тым маюцца яшчэ і дэкаратыўныя формы, якія размнажаюцца ў асноўным прышчэпкай

Адной з такіх яблынь з'яўляецца яблыня Нядзведскага. Гэта невялікае дрэўца (4-5 метраў) з шатравіднай кронай. Расліна выключнай дэкаратыўнасці. Тут прыгажосць ва ўсім: у цудоўных пурпурна-ружовых колерах, у скурыстых чырвонага адцення лісцях, у шматлікасці дробных цёмна-пурпурных пладоў, якія з задавальненнем паядаюць птушкі ў зімовую сцюжу.

У другой палове траўня няма расліны больш дэкаратыўнай, чым яблыня Нядзведскага, калі яна стаіць, патанаючы ў пурпурна-ружовых кветках, быццам прынцэса на бале. Погляд прахожых міжволі прыкоўваецца да расліны, якая ўсім сваім выглядам выдзяляецца на фоне маладой зеляніны. Каля двух тыдняў радуе сваім квітненнем не толькі гаспадароў сядзібы, але і суседзяў, і проста прахожых. На працягу ўсяго лета лісты гэтага дрэва выгадна выдзяляюць дэкаратыўную яблыньку сярод сваіх зялёных сясцёр.

Восенню ліст мяняе афарбоўку на розныя колеры: ад чырвона-аранжавага да жоўтага. У гэтую пару яблыня не губляе сваёй прыгажосці. Асаблівае зачараванне прыдае ёй вялікая колькасць дробных пладоў на фоне жоўта-аранжавых лістоў.

У літаратуры ёсць інфармацыя, што вядомы французскі садавод Тэлье лічыў гэту яблыньку з дэкаратыўнага пункту гледжання раслінай, якая не мае сабе роўных у садаводстве Еўропы.

Пры ўсіх сваіх дэкаратыўных перавагах яблыня мае адмысловыя уласцівасці. Гэта марозаўстойлівасць, непатрабавальнасць і ўстойлівасць да шкоднікаў і хваробаў.

Яблыня Нядзведскага паспяхова можа быць выкарыстана ў адзінкавай пасадцы на газоне. Пры наяўнасці вялікай плошчы каля дома магчыма выкарыстанне алейнай пасадкі.

Упрыгожце свой участак гэтаай дзіўнай дэкаратыўнай раслінай, не пашкадуеце.



# ПРЫВАТНЫЯ АБВЕСТКІ

## На продаж

### Легкавыя аўтамабілі і матацыклы

‣ "Сітроен ZX", 1992 г.в., 1,4, бензін, 5л на 100 км, 6 мес з Германіі, 1900 у.а.

‣ "Форд-Эскорт", 1995 г.в., 1,4, бензін, скураны салон, 5 л на 100 км, 1 мес. з Германіі, 2500 у.а. Тэл.: 2-43-55

‣ Seat IBISA, 1992 г.в., 1,2, карэктар фар, сэрвісная кніга, магнітола "BLAUPUNKT", 6 месяцаў з Германіі, 1850 у.а., торг. Тэл.: 2-88-78, пасля 17.00

‣ "Опель-Астра", 1994 г.в., зялёны колер, універсал. Тэл.: 3-96-53

‣ ВАЗ 2103, 1978 г.в., патрабуе кузаўнога рамонту, 250 у.а. Тэл.: 2-28-07

‣ "Опель-Рэкорд", 1985 г.в., кошт па дамове. Тэл.: 2-84-14

‣ Самаробны трактар з прычэпам. Тэл.: 3-72-72, званіць вечарам

‣ Матацыкл МТ-10, аўтамагнітолу "Грюндик". Тэл.: 2-40-69

А/м "Форд-Сіера", 2.3 Д, па запчастках. Тэл.: 2-60-62

ВАЗ 2101, газ – бензін, 1,2 рухавік 03, 5 КПП, 330 у.а, торг. Падсвільскі с/с, в. Стэфанава, Ляшкевіч Н. М.

"Мэрсэдэс-240 Д", у добрым стане. Тэл.: 2-83-80

Мікрааўтобус "Фольксваген-Транспортэр", 1.6Д, 1985 г.в. Тэл.: 2-84-15

"Фольксваген –Гольф-2", 1985 г.в., 1300 куб. см, бензін, трохдзверны, 850 у.а. Тэл.: 2-32-88, 2-72-41

"Аўдзі-80", 1983 г.в., 1.6 б, на запчасткі. Тэл.: 8-255-3-74-32

Прадам "Рэно-19 Шамада", 1990 г.в., 1.7, мона, электрапад'ёмнікі, электралюк, ц.з., ключ д.у., вялюр, цёмна-шэры металік, 5КПП, 6,5 л на 100 км, 1750 у.а. Тэл.: 3-43-54

"Опель-Аскона", можна на запчасткі, 500 у.а., торг. Тэл.: 2-52-26

"Опель-Кадэт", трохдзвёрны, 1,3 б, А-76, 1986 г.в., нябіты, нефарбаваны, у добрым тэхнічным стане, перламутр шэра-зялёны. Кошт ад 1100 у.а. Тэл.: 3-31-81

"Опель-Аскона", 1982 г.в. , у добрым стане. Тэл.: 2-60-19.

ВАЗ 2103, 1983 г.в., у эксплуатацыі 10 год, усё ў добрым стане, прабег 70 тыс км. Кошт 1000 у.а. Зав. М.Горкага, 8

"Мэрсэдэс"-123, 200, дызель, ВАЗ 2108, 1991 г.в., сіні колер, 1100 куб. см (А-76), 5,5 л на 100 км, з Германіі, 1500 у.а., торг. Тэл.: 2-33-08, 2-48-84

2А/м "Форд-Сіера", 1.8 б, 1985 г.в., 1200 у.а., торг. Тэл.: 2-16-77

Самаробны грузавы аўтамабіль. Тэл.: 8-255-3-96-89

Матацыкл "ІЖ-Комбі", на запчасткі. Тэл.: 3-29-34, з 18.00 да 19.00

Матацыкл МТ-10 у добрым стане. Прабег 7500. Тэл.: 2-70-11, пасля 16.00 (Андрэй)

## КУПЛЮ

### Легкавыя аўтамабілі і матацыклы

‣ ВАЗ 2108, 09, не старэй 1992 г.в., альбо "Гольф". Тэл.: 3-44-33

‣ ВАЗ або іншамарку да 2300 у.а. Тэл.: 2-52-64

‣ ВАЗ альбо іншамарку не старэй 85 г.в., да 1000 у.а. у любым стане. Тэл.: 8-029-643-99-87; 8-244-3-99-87; 8-244-3-70-88

ВАЗ любой мадэлі да 500 у.а. Тэл.: 3-96-11, пасля 18.00

"Фольксваген-Гольф-2", з няспраўным рухавіком. Тэл.: 2-84-15

Матацыкл ІЖ-Планета-5. Тэл.: 2-70-11, 2-74-25, пасля 17.00

### Запчасткі на продаж:

‣ Запчасткі да Рэно-21Д"Невада". Тэл.: 2-84-24, 2-71-41

‣ Турбакампрэсар. Тэл.: 2-68-53

‣ Запчасткі ад матацыкла ІЖ-Планета, б/у, нядорага, тэрмінова. Тэл.: 2-83-17

‣ Гуму для трактара Т-25, тытан на дравах новы. Тэл.: 8-255-3-77-68

‣ Запчасткі да а/м "Опель-Аскона", 1992 г.в., 1,6, бензін. Тэл.: 2-65-52

Гуму да МТЗ (заднюю). Тэл.: 3-65-12

Запчасткі да а/м "Опель-Кадэт", 1987 г.в. Тэл.: 2-15-17

Рухавік да ВАЗ 2103 без навяснога. Тэл.: 8-255 3-77-21

☑ Запчасткі да "Опель-Кадэт": левая фара, рулявая рэйка, фаркоп і г.д., кошты ніжэй рынавчных. Вул. Леніна, д 135, кв. 37

☑ Запчасткі да BMW-318, 1981 г.в., пераходная мадэль: галоўка, каробка, дзверкі, заднія ліхтары і г.д., танна. Вул. Леніна, д 135, кв. 37

## Клуб знаёмстваў

‣ Жанчына 43 год жадае пазнаёміцца для сур"ёзных адносін з самастойным мужчынам, пажадана матэрыяльна забяспечаным. Пітушчым, судзімым і не сур'ёзным да жыцця просьба не пісаць. Глыбокае, пошта, п.п. 652915

Мне пад 70 год, без шкодных звычак пазнаёмлюся з адзінокай жанчынай пасля 60 год, усе падрабязнасці пасля перапіскі . Пісаць па адрасу 211829 Глыбоцкі р-н, Карабоўскі с/с, в. Зарубіна, да запатрабавання.

Малады сімпатычны, 36/178 не свабодны. Без шкодных звычак і праблем пазнаёміцца з маладой жанчынай, магчыма, не свабоднай, са стройнай фігурай, да 30 год, якая мае не ардынарныя пажаданні і фантазіі для яркіх незабыўных сустрэч. Аддаю перавагу пастаянным сур'ёзным адносінам, пішыце. А раптам? Адрас: 220088 Мінск а/с 161

### Куплю markup розная

Прычэп. Тэл.: 2-40-17 ці 2-29-33

Куплю дошку для падлогі. Тэл.: 2-44-80

Пліты перакрыцця, можна б/у. Тэл.: 3-54-92, 3-52-66

Зруб 6х6 ці 6х7. Тэл.: 3-65-12

Воск, прапаліс,. Тэл.: 2-28-90 (пасля 18.00)

Кармавыя буракі. Тэл.: 2-35-61

Куллю вагі механічныя. Тэл.: 2-45-88

Трубу вадаправодную паліэтыленавую дыяметрам 32 і 40. Тэл.: 2-62-56

☑ Відэамагнітафон савецкай вытворчасці: ВМ-12;-18;-23;-25;-27, можна няспраўны. Вул.Леніна, д.135, кв. 37

☑ Прычэп да легкавога аўтамабіля. Тэл.: 2-40-17, 2-89-33

☑ Трубы дыяметрам 15-50мм. Тэл.: 2-87-74

☑ Куплю свярлільны станок, можна б/у. Тэл.: 2-80-70

☑ Куплю трубы, дыяметрам 15-50 мм. Тэл.: 2-87-74

## Штораз

80 – 100 абвестак з Пастаўшчыны, Ушаччыны, Шаркоўшчыны, Бягомля і Докшыц, а таксама Полацка і Наваполацка, але, найбольш, з Глыбоччыны!

## Штотыдзень

50 – 60 новых абвестак і рэкламных блокаў з усяго рэгіёна!

**Увага!**

Новыя абвесткі – пад знакам ‣

### Да ведама аматараў рэкламнай старонкі

Нашыя абвесткі бясплатныя, акрамя тых, якія ўтрымліваюць у сабе камерцыйны змест: абвесткі аб продажы і куплі жылля, аўтамабіляў. Плата за іх прымаецца на рынку.

*Для змяшчэння аб'явы трэба разборліва запоўніць наш купон. Ён прызначаны толькі для адной абвесткі*

## ПРАПАНУЮ ПРАЦУ:

Шукаю майстра па вытворчасці рамак для мастацкіх карцін. Тэл.: 2-80-70

### ПРАДАМ КАМП'ЮТАРЫ

AMD Duron-950; 432 у.а.
AMD Athlon-1700+; 471 у.а.
Intel Celeron 1100т; 449 у.а.
Intel Pentium-4-1600 562 у.а.
Гарантыя, дастаўка.
Тэл.: 2-63-59

Камп'ютар танна, гарантыя. Тэл.: 2-60-17



## ЖЫВЁЛЫ

‣ Прадам казу дойную. Тэл.: 3-35-61

‣ Прадам казу . Тэл.: 2-80-17

‣ Прадам жарабя . Тэл.: 2-93-24

☑ Куплю шчаня карлікавага пінчэра. Тэл.: 2-64-58

☑ Прадам трусоў на выбар. Тэл.: 2-24-99

☑ Прадам карову сямі цялят. Ацёл усакавіку. Тэл.: 3-42-23

## ПРАДАМ: Мэблю

Мяккі куток (новы), абітка вялюр, выкананы па італьянскаму каталагу, крэсла-ложак, кніжную шафу, б/у, усё ў добрым стане. Тэл.: 2-35-54

Два ложкі б/у па 50 000 БРБ, мяккі куток б/у, 450 тыс. БРБ. Тэл.: 2-63-84 (пасля 18.00)

☑ Кухня "Рэкта" ў сабраным выглядзе. Тэл.: 2-30-67, у любы час

☑ Прадам тумбу пад апаратуру (колер "арэх"). Памеры 1 Х 0,55 Х 0,45 м. Тэл.: 2-94-40

☑ Два палутараспальных новых ложкі, танна. Тэл.: 2-35-92

## Паслугі

‣ Здам на пракат вясельныя сукенкі і сукенкі на другі дзень. Тэл.: 2-65-52

‣ Прымаю заяўкі на правядзене агеньчыкаў, прысвечаных дню 8 Сакавіка, ансамбль, жывы гук. Тэл.: 2-50-78

Весела і нядорага абслугоўваем вяселлі і юбілеі. Вядучы, ямаха, акардэён, гітара, свой транспарт. Тэл.: 2-50-78

Для маладых – арыгінальныя кольцы для аўтамабіляў на пракат. Тэл.: 2-89-33, 2-40-17

Здам на пракат кольцы вясельныя (арыгінальныя) на аўтамабіль. Тэл.: 2-40-17 ці 2-29-33

☑ Вяжу на заказ пруткамі, кручком дзіцячыя топы, кофты і г.д. Не пашкадуеце! Вул. Кірава, 56

☑ Запішу кампакт-дыскі: праграмы, музыка і іншае. Тэл.: 2-19-17



## Адзенне, абутак На продаж

Шубу натуральную, воўк, новая. Тэл.: 2-84-15

☑ Унты мужчынскія, 42 памер, куртка мужчынская 48 памер, 5 рост (натуральнае футра). Тэл.:2-36-56

## Тэхніка для дома: на продаж

Пральныя машыны "Вална", паўаўтамат, "Ака", 8-11, "Алеся-2", "Вясёлка", "Малютка", цэнтрафуга, кошты нізкія , гарантыя 1 год. Тэл.: 2-46-56

Пральную машыну аўтамат, б/у. Тэл.: 2-60-00

Газавую пліту б/у. Тэл.: 2-62-56

Халадзільнік б/у "Атлант". Тэл.: 2-93-26

Халадзільнік б/у "Мінск". Паліцу для тэлефона, тэлевізар "Віцязь", б/у. Тэл.: 2-13-99

Швейную машынку і тэлевізар. Тэл.: 2-4017 ці 2-89-33

## ЗГУБА:

Згублены пашпарт на імя Ярахновіч Клаўдзіі Васільеўны просьба вярнуць за ўзнагароду. Тэл.: 2-68-96

31 студзеня на чыгуначным вакзале ў Глыбокім знойдзены пакет з рэчамі. Звяртацца па тэл.: 2-41-75

☑ 23 студзеня, увечары, каля аптэкі прапаў кот шэрага акрасу, 8 месяцаў. Сын вельмі перажывае. Калі ён у кагосьці, калі ласка, паведаміце па тэлефоне 2-46-24

☑ Згулена крышка ад бензабака "Фольксваген-Пассат". Тэл.: 2-40-17.

*З днём нараджэння!*

Дарагі Сяргей, віншуем цябе з радаснай і ўрачыстай падзеяй – 18-годдзем. Жадаем, каб усе твае планы і мары здзейсніліся. Будзь заўсёды здаровы, бадзёры, радуй сваіх блізкіх поспехамі. Мы заўсёды побач!
Мама, тата,брат

## ШУКАЮ ПРАЦУ:

‣ Дзяўчына шукае працу прадаўца, без шкодных звычак, вопыт работы. Тэл.: 2-23-18

‣ Вадзіцель з правамі катэгорыі А, В,С, Е шукае працу, мае вопыт. Тэл.: 2-20-95

Шукаю працу вадзіцеля (ёсць усе катэгорыі), ці трактарыста. Тэл.: 2-43-83 (да 18.00)

Шукаю работу прадаўца. Тэл.: 2-52-99 (пасля 17.00)

Маладая жанчына шукае працу няні, прадаўца. Разгледзіць любыя варыянты. Лена. Тэл.: 2-74-90

Адрамантую глушыцель аўтамабіля. Тэл.: 2-40-91

Шукаю працу выхаваціеля. Падрыхтую дзіця да школы.Маю дыплом і вопыт. Тэл.: 2-85-95 (пасля 17.00)

Выканаю друкарскія работы на камп'ютары, набор дакументаў. Тэл.: 2-45-02

## Іншае: На продаж

‣ Змяшальнікі куханныя, ад 23 тыс.руб, змяшальнікі для ванн, ад 35 тыс. руб., гнуткая падводка – ад 40 см да 3 м. Краны. Цэнтральны рынак, каля мяснога павільёна. Тэл.: 2-17-44

‣ Дыван б/у (Брэст), у добрым стане, беж-карычневы колер, памер 2Х3, тахту аднаспальную, б/у, у добрым стане. Тэл.: 2-45-55, пасля 17.00

‣ Канапа вялікая, раскладная, б/у, у добрым стане, нядорага. Тэл.: 2-74-58, пасля 18.00

‣ Музычны цэнтр "AIWA", 3-CD, б/у 1 год, 135 у.а. Тэл.: 2-41-53.

‣ Новыя конныя сані. Кошт па дамове. в. Прыпернае, Бартко Чэсь. Тэл.: 3-67-44 (рабочы)

‣ Акардэон, гармонік, веласіпед (горны). Тэл.: 2-80-73

‣ Прадам электрарухавік 3 Квт. Тэл.: 2-85-70

‣ Прадам кармавыя буракі. Вул. Машэрава, д.75

Электрагітару ў добрым стане, 40 у.а., торг. Тэл.: 2-60-18

Установку для апрацоўкі матэрыялаў з дрэва "Лучоса", прыналежнасці і інструменты. Тэл.: 2-43-90

Прадам дровы з дастаўкай. Тэл.: 3-96-59

Швейную машынку "Сінгер". Тэл.: 3-43-95

Радыётэлефон "Панасонік" з аўтаадказчыкам, б/у, выдатны стан, радыюс 300-500 м. Тэл.: 2-68-05

Зруб новы 3х6. Тэл.: 2-60-19

☑ Прадам калекцыю мастацкай літаратуры. Тэл.: 2-94-40

☑ Новы бытавы дрэваапрацоўваючы станок з прыстасаваннямі і фрэзамі. 1,5 Квт, 220 В, Магілёўліфтмаш. Тэл.: 2-62-81

☑ Плугі да МТЗ, трохкорпусныя. Тэл.: 2-84-23

☑ Сена. Тэл.: 3-63-10

☑ Змяшальнікі для ванны, ад 35 тыс., змяшальнікі для кухні, ад 22 тыс. БРБ, сіфоны, гібкая падводка. Тэл.: 2-17-44

☑ Кацёл ацяпляльны, на цвёрдым паліве, новы, рухавік ЗІД, новы, моталодку надуўную, культыватар КТ-25, касілку КС-2,1. Тэл.: 2-26-60

☑ ДВП, трубу п/э вадаправодную, дыяметр 25, 32; цэглу абліцовачную, блокі сілікатныя.Тэл.: 2-71-14, 3-67-47

☑ Прадам дровы. Тэл.: 2-87-24

## КУПОН АБВЕСТАК

Адрас(для рэдакцыі):

Тэлефон:

прадам
куплю
абмяняю
прапаную
здам
іншае
(патрэбнае падкрэсліць)

Купон запаўняецца разборліва, пажадана друкаванымі літарамі.
Купон можна перадаць нашаму распаўсюджвальніку на рынку, альбо даспаць на адрас: 211800, Глыбокае, а/с №2

Вольнае Глыбокае

Возера ў Арменіі
Удзельнік Карміды
Горны гразявы паток
Франц. філосаф
Аўтамабільная і чыгуначн.
Для зерня ў камбайне
Вудатны лётчык
бард з Н.Полацка
Былы канал Гусінскага
Ледзяная глыба
Горад у Польшчы
Савецкая армія
Франц. мера даўжыні
Граматычн. катэгорыя
Граф. палярнічны
адзінка ціску
У ім існуе
хімічн. элемент
Зброя Мядзічы
Бел. фірма (напоі)
Жаночае імя
Англ.мера плошчы
Посуд і частка шкілету
Агародная расліна
нямецкі фізік
Аконная...
прыток Волгі
Музычны твор
10 х 10 м
Овраг (бел.)
Цэнтр Еўропы (возера ля Глыб.)
Тэма "Cosmopolitan"
Вораг Буша
Напой піратаў
шахматны тэрмін
Анэстэзія
"Чалавек і ..."

## Крыптаграма «Вольнага Глыбокага»

Калі вы правільна разгадаеце ключавыя словы і літары, адпавядаючыя лічбам,
запішаце ў клетачкі круга, то атрымаецца выказванне пра мэту нашай працы.

1-2-3-4-5-6-7 - запісная кніжка
8-2-9-1-3 - вялікі абломак скалы
10-11-5-3 -сталіца Аўстрыі
12-13-3 - мацнейшая краіна свету
12-6-2-14 -сырасць, мгла.

10 6 2 14 5 3 11 8 2 9 1 6 4 3 11 - 10 3 13 3 8 3 12 11 7 3 !

Загадка ВГ
ад З.Лупача

## ГАРАСКОП

**Авен.** Мноства нечаканасцей на працы і ў бізнесе патрабуюць ад вас аператыўнай рэакцыі, мабілізацыі ўсіх вашых матэрыяльных і інтэлектуальных рэсурсаў.

**Цялец.** Не ўспрымайце трагічна негатыўныя адносіны з сябрамі і знаёмымі. Звычайна канфлікт з'яўляецца вынікам пралікаў абодвух бакоў. Прадбачыцца паляпшэнне матэрыяльнага стану.

**Блізняты.** Перш, чым прымаць важнае рашэнне, трэба падумаць аб наступствах як для вас так і для родных і блізкіх. Не лепшы дзень для заняткаў спортам.

**Рак.** Тыдзень выхаду са складаных сітуацый у адносінах са знаёмымі і сябрамі. Падумайце, што трэба зрабіць для таго, каб не дапускаць адну і тую ж памылку ў жыцці.

**Леў.** Першыя дні тыдня будуць напружанымі і негарманічнымі. На працы і ў бізнесе верагодныя пэўныя праблемы з начальствам і кампаньёнамі. Захоўвайце сітуацыю пад кантролем.

**Дзева**
У сям'і адносіны са сваякамі будуць самымі лепшымі для таго, каб знайсці агульную мову, кропкі сутыкнення і вырашыць праблемы. На працы чакае поспех, прадугледжаны загадзя.

**Шалі**
Калі вы жадаеце дасягнуць поспеху, то не трэба ўпускаць магчымасці праявіць сябе. Актыўныя дзеянні па абароне сваіх інтарэсаў вельмі выгадныя для вас.

**Скарпіён.** Пастарайцеся знайсці "залатую сярэдзіну" паміж рашэннем сямейных праблем і працай. У адносінах з супрацьлеглым полам не трэба дапускаць дзеянняў неэтычных.

**Стралец.** Ад вас патрабуецца здольнасць кантраляваць пачуцці і эмоцыі. Вельмі важна разумна размеркаваць па часе абавязкі.

**Казярог.** Тыдзень стане важным у адносінах з супрацьлеглым полам, калегамі па працы. Магчымы нават перагляд прынцыпаў, якіх трымаецеся ў адносінах з людзьмі.

**Вадалей.** Абставіны дадуць магчымасць пэўным поспехам, дзякуючы ўмеламу выкарыстанню асабістых кантактаў і сувязей.

**Рыбы.** Тыдзень будзе спакойны і гарманічны. Але магчымыя нечаканыя праблемы ў адносінах з супрацьлеглым полам, сябрамі і знаёмымі.

КУФАР ПАРАД

## Стравы ад Валянціна

Прысмакі да гэтага свята простыя: у кожнае блюда дабаўце крыху "сэрца". Малюйце сэрцы на сурвэтках і выразайце іх з вяндліны, сыру, морквы.

Можна спячы пясочнае пячэнне ў форме сэрца, упрыгожыць торт сэрцамі з крэму і гародніны.

**Пячэнне "Валянцінкі"**

2 шклянкі геркулесу, 1 ст. лыжка мукі, 1 ст. лыжка крухмалу, 1 яйко, 5 ст. лыжак какавы, 2 шклянкі цукру, 200г тварагу, 100 г маргарыну, 1/2 чайная лыжка соды.

Геркулес заліць гарачым малаком і паставіць для набухання. У астуджаную набухшую масу дабавіць муку, крухмал, сырое яйка, какаву, цукар, тварог, змельчаны маргарын.

Усю масу добра перамяшаць, дабавіць соду, злёгку ўзбіць і выліць ў змазаны тлушчам процівень.

Гатовае пячэнне разрэзаць гарачым на процівені ў выглядзе формы сэрца, паклаcці на талерку, пасыпаць цукровай пудрай.

**Суп "Купідон"**

Кажуць, што святы Валянцін насіў кальцо з выявай Купідона. Купідон – ад лацінскага cupido, моцнае пачуцце, у рымскай міфалогіі – бажаство кахання.

Паспрабуйце прыгатаваць супчык "Купідон" – ён выклікае ў вас моцнае пачуцце, гэта несумненна!

Прадукты на дзве порцыі: 800 г вады, 1 шклянка сушанай прыправы або 3 шклянкі верхавін свежых маладых парасткаў крапівы, 100 г халоднага варанага мяса, 1 яйко, соль і смятана па смаку.

Ускіпяціце ваду, пасаліце, усыпце ў яе крапіву, варыце 2-3 мінуты, калі крапіва свежая, 5 хвілін – калі сушаная. Накрыце каструлю тканінай, дайце настаяцца. У талеркі палажыце па палове крутога яйка, парэзанае кубікамі мяса. Заліце крапіўным адварам, палажыце па смаку смятану.

Атрымаецца смачны вітамінны суп.

## РЭБУСЫ «ГАРАДЫ БЕЛАРУСІ»

1,3,4 Ы
Р=Л Е
А=Ы Н
ОЎ Р
С=Д



"Вольнае Глыбокае"
Тыднёвік паўночна-заходняй Беларусі
Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун

Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання № 1099, выдадзена Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 г.

Рэдактар і выдавец: п.п. Уладзімір Скрабатун, пасведчанне № 390000860 ад 20. 10. 99; тэлефон: 2 46 14; адрас для допісаў: 211800 г.Глыбокае п/с 2
E-mail: vglybokaye@promedia.by

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў. Спасылкі на "ВольнаеГлыбокае" абавязковыя.

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень
Аб'ём – 4 друкаваныя аркушы
Падпісана ў друк 11 лютага 2002г. у 10[00]
Наклад 2030 паасобнікаў
Юрыдычны адрас: вул. Маскоўская, 121, г. Глыбокае.

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае». Надрукавана ў РУП «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ, 222310, г.Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Афсетны друк. Замова № 702.